# ДЗЯННІЦА

Вестка Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту.

Цѣна асобнаго № усюды **25** кап.

**ВАРУНКІ ПЕРАДПЛАТЫ:**

| | |
|---|---|
| На год | 8 р. — к. |
| „ паугода | 4 „ 50 „ |
| „ 3 месяцы | 2 „ 15 „ |
| „ 1 месяц | — „ 75 „ |
| За граніцу на год | 20 р. — „ |

**Перамена адрысу 40 кап.**

**Адрэс рэдакцыі: Птрг., Знаменская, 36. Тэл. 253—49.**

№ 4. Аўторак, 19 марта. **Выходзіць ня меньш чатырох разоў у месяц.** Пецярбург 1918 г. І-й год выданьня.


## ЧАРОДНЫ № ДЗЯННІЦЫ ВЫДЗЕ У МАСКВЕ ПРАЗ КОЛЬКІ ЧАСУ.

## ДА ЧЫТАЧОУ.

С прычыны выязду Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту з Пецярбургу, радакцыя „Дзянніцы“ так сама пакідае Пецярбург. Вось гэты нумар радакцыя вымушана выпусціць апошнім у Пецярбурзі. Дачасна, пакуль газэта цвёрда асталюяцца — усякую караспадэнцыю, пісьмы, рукапісы і грошы на яе імя просім перасылаць па адрысу вось якому: Москва, Московскій союзъ потребительных обществ, 2-й Переведеновскій пер., с. д., Ф. С. Станилевичу с передачею редакціи газеты „Дзянніца“..

*Радакцыя.*

## ОТЪ ЮРИДИЧЕСКАГО ОТДѢЛА БѢЛОРУССКАГО НАЦІОНАЛЬНАГО КОМИССАРІАТА.

**При Юридическомъ Отдѣлѣ** Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата (Знаменская, 36, кв. 54) бѣлорусскому населенію **даются справки** по всѣмъ **вопросамъ юридическаго характера.** Консультація **отъ 12 до 2 час. дня ежедневно,** кромѣ дней неприсутственныхъ.

*Юридическій Отдѣлъ Б. Н. К.*

## Юридическій Отдѣлъ Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата,

имѣя въ виду кодифицировать всѣ матеріалы по обычному праву Бѣлоруссіи, обращается ко всѣмъ организаціямъ и учрежденіямъ, а также и къ частнымъ лицамъ съ просьбой предоставить таковые матеріалы въ постоянное, либо временное, распоряженіе Отдѣла.

Расходы, связанные съ пересылкой и доставкой, могутъ быть возмѣщены.

**Юридическій Отдѣлъ Бѣлор. Націон. Ком.**

(Знаменская, д. 36, кв. 54, тел. № 253—49).

*Пятярбурх 19 марца.*

Натта цяжкая часіна настала дзеля Расеі і ня відаць, калі яна пярэйдзя, кончынца. Німа хлеба, мьяса і усяго другога дзеля яды, німа адзежы, абуткі. Жалезныя дарогі сусім кепска працуюць. Нельга нічога падвясці. Хвабрыкі і заводы кідаюць працу... Усіо боляй і боляй становіцца горшым жыцьціо. Тыя людзі, дзеля якіх на першум клуне стаяць інтарэсы іх жывата і якім мала дзела да равалюцыі і тых правоу, што яна дае кожнаму працоуніку, гэтыя людзі, а іх натта шмат, бармочуць усюды праклынаньня „нягодным камісарам“, наклікаюць усякую бяду на Савецкую Распубліку: „гэта камісары даводзюць да таго, што памрэш з голаду, гэта яны прадалі нас немцам“. Такія рэчы можна чуць у кожным мейсцы. Аб такіх людзях нельга іншаго сказаць, як тое, што у іх галаве ня натта чагось шмат. Толькі той, хто мае ня многа разуменьня, хто сам нічога ня хоча рабіць, заусіогады задзіраецца і фыркае на другіх.

Але нехай трохі азірнецца каля сябе, азірнецца назад такі „гражданін“ і калі іон ня сусім сляпы, та убачыць, што цяперашняе палажэньне у гасударственай гаспадарцы ня звалілася з неба, а маецца быць наследкам вайны, калі нажываўся, хто мог, і абкрадау народ, што было змогі. Расея была галодна, убога ужо і да акцябра, але-ж да таго мамэнту тыя, што цяпер крычаць, маучалі. Значыцца, тут закавыка у другім, ня у хлебе, а у злосці супроціу працоунае уласьці. Тыя, каму гэтая уласьць коля вочы, у каго яна адымае панаваньне, падхапляюць ропат няразумелых сяброу на голад, пад'юджваюць народ і паказываюць пальцам на Смольны: гэта іон вінават. А ці ня больш усіх у голадзя ваша віна? Не, у гэтым вам цяжка прызнацца.

Сям-там хто-небуць прамовіць, што дарогі спаганіла грамадзянская вайна: ня трэбало яе вясці. Гэта кажа чалавек, якому усіо роуна. Але гэтта першы ён, і крычыць: гэта Савецкае правіцяльства вядзе яе, далоу яго, а ня то прападзіом з голаду. Лепяй бы ня крычалі, калі вам люба Расея, міл яе народъ: іон за Саветы, а калі вы ідзяце супроціу іх, та ідзеця на народ. Дык ня кажэце, што вы ваявалі супроціу Саветау, любячы народ, маючы мэту ратаваць яго ад пагібелі — вы губіце яго і паказываяце на другіх.

Але-ж у чым больш усяго наракаюць на Савецкую уласьць, дык гэта у замірэньні з Гэрманіяй. Абувацяль, каторы да палітыкі ня датыркаяцца, кажа: „вось да чаго давялі“, а тыя, з другого боку, дык натта рады гэтаму і крычаць: „прадалі Расею немцу; і грошы ужо палічылі“. Крычаць, але гэта ня запыняе іх пайсці с тым самым немцам, якога яны, як здаецца, натта ня любяць, супроціу роднага народу. Кожны бачыць, што варта іх крыкі: яны крычаць толькі дзеля таго, каб падняць народ супроціу працоунае уласьці, а самі гатовы з немцамі пайсці на яе. Нехай сабе крычаць, але ня трэба слухаць гэтаго злоснаго крыку, бо іон няспраўядлівы.

Кожны ведае і помніць, што цяперашнія прэдстаунікі уласьці заусіогады стаялі за замірэньне і за імі аб гэтым пайшоу увесь народ. Уся Расея сказала, што яна ня хоча вайны; значыцца трэбыло замірыцца. Савецкая уласьць моцна стаяла аб тым, каб зрабіць гэтае замірэньне прыемным і добрым. Але нямецкія грабіцялі, якім усіо мала зямлі, каторыя трусяцца „равалюцыйнае заразы“ у Гэрманіі, пайшлі углыб Рассеі „навясці парадак“, як яны кажуць. Гэта значыць, захапіць боляй зямель і прыдушыць расейскую равалюцыю, якая дзеля іх, як гостры нож у сэрцы. Што-ж было рабіць Расеі? Або замірыцца на тых варунках, якія прапанавалі нямецкія гэнаралы, ці вясці вайну. Апошняе нельга было зрабіць, бо ваяваць цяпер у нас німа моцы. Кожны ведае, што армія, якая была упярод, пачала разрабляцца з першых дніоу равалюцыі і цяпер яе ужо німа. Новая, чырвоная армія, натта нявяліка, каб яна мела сілу cупрачацца з нямецкімі вайскамі. Значыцца, трэбало замірыцца — як на доуга — гэта другое пытаньне.

Савецкая уласьць атрымала лепшы выхад, які ратавау равалюцыю. Але, ня глядзючы на тое, расейскія контар-равалюцыянэры бачаць у замірэньні на кепскіх варунках прычэпку дзеля барацьбы супроціу цяперашняго нашага гасударствянаго устрою, вінуючы ва усіом уласьць. І сьмех падумаць: яны ня хочуць замірэньня з немцамі, а чакаюць і сустрачаюць іх з вялікаю радасьцю, саймуючы: прыйдзя немяц, навядзе парадкі.

Што нашуй буржуазеі ня немца усцішна, а натта ня по сэрцу іой абмацаваушаяся равалюцыя, дык гэта відаць з таго, што робіцца на даліокім усходзя. Японя мусіцца ратаваць Расею ад нямецкага захапляньня і сама хоча увясці свае войска у нашы землі пры усходным моры. У хаурусе з ею, як іосць чутка, маюцца быць некі Львоу і Пуцілау, каторыя апавясцілі, што яны устанавілі, ці ня толькі у Пекіня, расейскае правіцяльства усходнаго Сыбіру. Яны маюць дзеля падмогі сабе некую частку казакоу. Выходзя вось як: тута чакаюць немцау, каб яны зрабілі парадак, там ідуць з немцамі у хаурусе забіраць Мінск, Бабруйск, Воршу, Гомяль; на Украіне Пятлюра дзякуе немцам за тое, што яны прыйшлі у Кіяу. Сябры Пятлюры ізноу збіраюцца каля Аляксеява у Новачаркаску, і на усходзя кругом Львова, каб з японцамі ратаваць і наладзіць парадак у Расеі. Як бачыце, усюды яны злучаюцца с кім хочаш — з Гэрманіяй, з Японяй, з Карнілавым толькі-б пашкодзіць працоунай равалюцыі у Расеі. Мэта у іх адна, хоць і спосабы розныя.

